# ТУТ І ЦЯПЕР

НАШЫ ЧЫНУШЫ –



КРУТЫЯ “АЎТАКРЭЗЫ”

СТАР. 3–4

ЯК “ПЛЕСЦІ”



ВАЛЮТНЫ КОШЫК

СТАР. 5

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

06.09.12-12.09.12 г.


# “СВЯДОМА ДРЭННЫЯ” ВЫНІКІ НАШЫХ АЛІМПІЙЦАЎ

З будынка Міністэрства спорту выйшаў чалавек у лахманах і павалокся па вуліцы Кірава на Галгофу (К.Маркса, 38). На шыі ў яго вісела шыльдачка: “Я обманул президента”. . .




*І медаль адабраны, і перспектывы на будучыя Алімпіяды цьмяныя*

## ПРАБЛЕМЫ АМАЛЬ ВА ЎСІХ ВІДАХ СПОРТУ

Такую карціну можна было ўявіць сабе пасля сумеснага пасяджэння калегіі Міністэрства спорту і Нацыянальнага алімпійскага камітэта, што адбылося 5 верасня. На ім разглядаліся вынікі беларускай каманды на Гульнях-2012 у Лондане. Кароткі вердыкт — правал.

> “І паколькі, як адзначыў сам Качан, праблемы існуюць практычна ва ўсіх відах спорту, то размова павінна весціся не столькі пра недахопы канкрэтных выканаўцаў, колькі пра заганы сістэмы”.

12 медалёў замест запланаваных 25-ці сапраўды выглядаюць як фіяска. Шмат гадоў улады сцвярджалі, што іх намаганнямі Беларусь ператварылася ледзь ці не ў самую спартовую дзяржаву на свеце. І раптам гэтая рэпутацыя абрынулася — пасля таго, як сёлета быў атрыманы найгоршы за ўсю гісторыю вынік на Алімпіядзе.

Натуральна, адразу пачаліся пошукі “стрэлачнікаў”. Міністр спорту Алег Качан дзеля праформы адзначыў, што падзяляе адказнасць, і адразу перайшоў да “сапраўдных віноўнікаў”. Чыноўнік заявіў, што праблемы існуюць практычна ва ўсіх відах спорту. Сітуацыю ў спартыўнай гімнастыцы ён наогул назваў “национальным позором”.

— Мы обманули президента. Я ему обещал медали, — падсумаваў Качан.

Па выніках пасяджэння вырашана разгледзець пытанне пра замену кіраўніцтва васьмі федэрацый:

— лёгкай атлетыкі (кіраўнік — намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Уладзімір Патупчык);

— акадэмічнага веславання (былы міністр спорту Аляксандр Грыгараў);

— веласпорту (дырэктар аўстрыйскай кампаніі ATEC Holding, якая кантралюе “Матавела”, Аляксандр Мураўёў);

— плавання (міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Уладзімір Белахвостаў);

— пяцібор’я (намеснік кіраўніка прадстаўніцтва Парламенцкага сходу саюза Беларусі і Расіі Аляксандр Шалюта);

— фехтавання (чэмпіён Алімпіяды-1988 Аляксандр Раманькоў);

— сінхроннага плавання (дырэктар Мінскай гарадской спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па сінхронным плаванні Людміла Сянько);

— дзюдо (міністр энергетыкі Аляксандр Азярэц).

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## 6 МЛРД ДОЛАРАЎ У 2012 ГОДЗЕ АД РАСІІ

Падтрымка Беларусі з боку Расіі сёлета ўжо перавысіла 6 млрд даляраў ЗША, паведаміў старшы дарадца пасольства Расіі Валерый Бандарэнка, падамляе Радыё Свабода..

«Толькі сёлета Беларусь, за кошт істотна зніжаных цэнаў на газ, бесперашкодных паставак нафтапрадуктаў і стварэння іншых спрыяльных умоваў, ужо атрымала дадаткова больш за 6 мільярдаў даляраў», — заявіў Валеры Бандарэнка ў інтэрв’ю Інтэрфаксу.

Дыпламат не бачыць падставаў для ўзнікнення якіхсьці новых сур’ёзных супярэчнасцяў у расійска-беларускіх стасунках.

«Хай не цешаць сябе ілюзіямі тыя, хто б гэтага жадаў», — адзначыў Бандарэнка.

«У двухбаковых адносінах не бывае заўсёды ўсё гладка і раўназначна. Мы — дзве незалежныя суверэнныя дзяржавы, у кожнай свае інтарэсы, прынцыпы, законы», — кажа Бандарэнка.

Гаворачы пра двухбаковыя стасункі, старшы дарадца дадаў: «Можа, часам у гэты працэс умешваюцца эмоцыі. Але, тым ня менш, праблемы не заганяюцца ў тупік, а знаходзяць сваё лагічнае развязанне».

# ЦІ СТАНЕ ГЛЫБОКАЕ ТУРЫСТЫЧНЫМ РАЕМ?

Пасля нядаўна праведзенага Дня беларускага пісьменства ў невялічкім Глыбокім нарадзіліся чарговыя грандыёзныя планы па ўсталяванні чарговай турыстычнай Мекі. Наколькі рэальныя гэтыя планы, разбіралася "Тут і цяпер".



*У нас прыблізна такое бачанне турызму*

**ЗМІЦЕР ЛУПАЧ, ЖУРНАЛІСТ (ГЛЫБОКАЕ):**

### "НЕ ЎСЁ ТАК ДРЭННА".

– Знешне ўлады на гэты раз падышлі да справы нядрэнна: тратуары ўпарадкавалі, зрабілі прыгожую ўзбярэжную, устанавілі новы фантан, паставілі восем бюстаў, у тым ліку Ластоўскаму, Драздовічу, Буйніцкаму; шыльду Дуж-Душэўскаму ўсталявалі. Гэта можа прывабіць беларускіх турыстаў.

Але зрабілі і дрэннае. Напрыклад, знеслі стары млын за чатыры дні да свята. Не спадабалася мне і тое, што ў гістарычным цэнтры засталіся савецкія назвы вуліц. Я неяк збіраў подпісы за вяртанне гістарычнай тапанімікі, але дапамогі ад "вертыкалі" не дачакаўся. Адказ быў такі: на гэта няма грошай. Але колькі грошай яны "ўсадзілі" толькі на адну тратуарную плітку! Каля мільёна долараў каштавала рэканструкцыя ўнівермага. Маглі б і на вяртанне беларускай тапанімікі сродкі адшукаць…

**ЛІЛІЯ КОБЗІК, ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ГАЗЕТЫ "ТУРЫЗМ І АДПАЧЫНАК":**

### "ДЗЯРЖАВА НЕ ПАВІННА ЎМЕШВАЦЦА Ў ТУРЫЗМ".

– Глыбокае і не вымагала ніякіх пэўных адміністрацыйных захадаў для таго, каб нечым стаць. Яно само па сабе з'яўляецца турыстычным прывабным пунктам. Гэта месца, дзе спалучылася многае: храмы, гісторыя, імёны, ландшафт. Тое ж Кагальнае возера… Калі казаць пра інфраструктуру, якая расквітнела пасля Дня пісьменства, дык гэта не залежыць ад нейкіх разавых захадаў. Там жа не з'явіўся нейкі турыстычны квартал, з пэўнай лагістыкай руху турыстаў , калі турыстычныя аб'екты нібы звязаны ў ланцужок: нацыянальныя рэстарацыі, сувенірныя крамкі, лодачныя станцыі… Такой мэты не ставілася. Там нешта зроблена кропкава і не заўсёды ўдала. Напрыклад, новы фантан вельмі нязграбны. І тое, што паміж храмамі выбудавалі такое, проста ганьба. Беларускай нацыянальнай кухні як такой у Глыбокім няма, а без кухні няма турызму. Няма і месца, дзе можна прыстойна правесці час.

Канечне, пэўнае кола людзей, гатовых ехаць дзеля помніка Ластоўскаму, можна заманіць у Глыбокае. Але наўрад ці гэта будзе матывацыяй для натоўпу турыстаў.

Увогуле, у такую справу, як турызм, дзяржава не павінна ўмешвацца.

**ДА ВЕДАМА**

### ПЛАНАЎ "ГРОМАДЬЁ"

**Дзень беларускага пісьменства дапаможа Глыбокаму стаць значным турыстычным цэнтрам Віцебшчыны і ўсёй краіны. Такое меркаванне выказаў днямі старшыня нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня пісьменства намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік.**

**АНТОН АСТАПОВІЧ, СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ДОБРААХВОТНАГА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ:**

### "СТЫЛЬ "АГРАГЛАМУР" НЕ ПРОЙДЗЕ".

– Зараз Глыбокае – гэта трывіяльны беларускі райцэнтр, які мае дзве цікавыя дамінанты: Троіцкі касцёл і кляштар кармялітаў. А ўвесь дух Глыбокага, які сфарміраваўся ў 20-я, 30-я гады мінулага стагоддзя, канчаткова знішчаны. І ніколі Глыбокае не стане іскрынкай для турыстаў, бо з гэтага гарадка сышоў дух. Прычын вельмі шмат, як і шмат вінаватых. Галоўнае – гэта імкненне нашых чыноўнікаў да "красівасці" ў іх разуменні. Дзякуючы ім зараз у нас пануе стыль "аграгламур". Якія ў Глыбокім непапраўныя крокі зроблены? Гэта, па-першае, цеплараэбілітацыя будынка гісторыка-краязнаўчага музея: будынак канца XIX стагоддзя (цаглянае дойлідства) "апранулі" ў "тэрмафутра", але ж не было ні адной прапановы з боку глыбачан, каб дзяржава ўзяла гэты аб'ект як помнік архітэктуры пад сваю ахову. Яшчэ была зруйнавана міква другой паловы XIX стагоддзя, габрэйская рытуальная лазня на тэрыторыі двара былой сінагогі. І на паўднёвым беразе Кагальнага возера быў зруйнаваны, літаральна тыдзень назад, цагляны млын. Але ж, з іншага боку, чыноўнікі не парушылі закон у Глыбокім, бо тыя змены з гістарычнымі будынкамі і тэрыторыямі, тыя руйнаванні былі здзейснены ў межах дзеючага заканадаўства.

**СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ, МАСТАЦТВАЗНАЎЦА:**

### "БРАК ГУСТУ – МІНІМУМ ТУРЫСТАЎ".

– У глыбоцкім выпадку мы сутыкаемся з элементарным бракам густу, што вельмі негатыўна ўплывае на прыцягальнасць гэтага горада для турыстаў. Помнікі ўсе статычныя. Не бачна там ні задумы, ні асабістага пачуцця. Гэта мне нагадвае савецкія часы, калі ставіліся бюсты невядома каму і з аднолькавым энтузіязмам ляпілі Кіравых і Калініных. Ніякіх асаблівых пачуццяў гэтыя помнікі не выклікалі. Мы ў чарговы раз наступаем на адны і тыя ж "дажынкавыя" граблі. Не было ніякага грамадскага абмеркавання. Атрымалася няўдала. Але, безумоўна, гэта не самы горшы прыклад. І, бясспрэчна, гэта ў тысячу разоў лепш за крываногага Леніна. Але ў такім выпадку трэба выдаваць буклецікі, каб людзі маглі даведацца, хто гэта. Што "дзядзька ў футры" – выдатны тонкі мастак-графік, самотны чалавек, які не крывіў душой, не паддаваўся на спакусы і ў рэшце рэшт памёр ад голаду. Ці бачым мы вобраз аскета і летуценніка? Не. Я ўжо не кажу пра ўсіх астатніх.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# “СВЯДОМА ДРЭННЫЯ” ВЫНІКІ НАШЫХ АЛІМПІЙЦАЎ

## САБАТАЖ, АДНЫМ СЛОВАМ

Я нездарма засяродзіў увагу на пасадах кандыдатаў на адстаўку. Большасць з іх — дзяржаўныя чыноўнікі, якія маюць вельмі аддаленае дачыненне да відаў спорту, якімі кіруюць. Нядзіўна, што вынікі атрымаліся нездавальняючыя.

Цікава, што, нягледзячы на няўдалы выступ барцоў, кіраўніцтва адпаведнай федэрацыі пад раздачу не патрапіла. Чаму? Адказ на гэтае пытанне вельмі просты: старшыня федэрацыі — набліжаны да Аляксандра Лукашэнкі алігарх Юрый Чыж.

Фактычна чыноўнікі, якія кіруюць адпаведнымі спартыўнымі федэрацыямі, занялі такую пазіцыю: мы забяспечылі спартоўцаў і трэнераў усім неабходным, а яны не выканалі пастаўленую задачу. Таму, маўляў, і адказваць павінны выканаўцы. Качан нагогул заявіў:

— Некоторые спортсмены сознательно показывали плохой результат. Причины устанавливаются.

Сабатаж, адным словам. Мусіць, гэтыя шкоднікі хацелі падарваць імідж “моцнай і квітнеючай” Беларусі.

Насамрэч, на пасяджэнні гучалі і больш адэкватныя тлумачэнні няўдач. Напрыклад, высветлілася, што лёгкаатлеты рыхтаваліся да Алімпіяды па тэхналогіях… 1979 года. Раварысты праз недахоп грошай не маглі засяліцца ў гатэль. Гімнасты сыходзяць у цырк, бо там больш высокія заробкі. І гэтак далей.

Такім чынам, ці то сродкаў, якія выдзяляе дзяржава, мала, ці то яны размяркоўваюцца нерацыянальна. І паколькі, як адзначыў сам Качан, праблемы існуюць практычна ва ўсіх відах спорту, то размова павінна ісці не столькі пра недахопы канкрэтных выканаўцаў, колькі пра заганы сістэмы.

Але, ратуючы свае пасады, чыноўнікі замоўчваюць найвялікшую праблему. Гэта і ёсць сапраўдныя мана і сабатаж, наступствы якіх мы пабачым на наступных Алімпіядах — у Сочы і Рыа-дэ-Жанейра.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЧЫНУШЫ ЯК “АЎТАКРЭЗЫ”

У параўнанні з суседскімі, нашы чынушы – крутыя “аўтамабілісты”.

Байнэт ускалыхнула звестка пра непамерныя амбіцыі старшыні Ельскага райвыканкама Гомельскай вобласці. Райвыканкам абвесціў тэндар на закупку аўтамабіля для свайго начальніка.

Тэндарная аб’ява з’явілася на сайце Goszakupki.by. Купіць хочуць Touareg V6 TDI Tiptronic або яго аналаг, рухавік — 3.0 V6 TDI, 150 кВт / 204 л.з., каробка перадач — 8-ступеньчатая АТ, колер — чорны перламутр. За такі аўтамабіль Ельскі райвыканкам гатоў выкласці 587 100 000 беларускіх рублёў. «Відавочна, старшыні надакучыла ездзіць на ровары», — кпіць Байнэт.

## ГАЛОЎНАЕ – НІ Ў ЧЫМ САБЕ НЕ АДМАЎЛЯЦЬ

Наогул, нашы чыноўнікі сабе ні ў чым не адмаўляюць. Не так даўно ў аддзеле продажаў «Аўтасалон — AV» афіцыйнага прадстаўніка «Аўдзі» ў Беларусі адзначылі, што па дзяржзакупках актыўна прадавалася AUDI A4. «Кошт адносна прывабны — 23 тысячы еўра», — казалі ў аўтасалоне.




*Вось якія аўтамабілі выбіраюць далёка не самыя буйныя чыноўнікі*

У «Таёта Цэнтр Мінск» распавялі, што папулярнасцю ў дзяржструктур карыстаюцца далёка не самыя танныя маркі: «У нас купляюць прэзідэнцкія гаражы. Дзяржструктуры часта набываюць у нас аўтамабілі. Гэта ў асноўным Camry, Land Cruiser 150, Land Cruiser 200. Але цяпер, у 2011—2012 гадах, тэндэнцыя такая: больш купляюць юрыдычныя асобы. Таму каля дзяржустаноў можна ўбачыць аўтамабілі дырэктараў пэўных прадпрыемстваў». Сярэдні кошт на Camry — 40 тысяч долараў. Можна і за 60 тысяч купіць, у лепшай камплектацыі. Новы Land Cruiser каштуе 100 тысяч. На Toyota Camry ездзіць міністр культуры Павел Латушка, а Land Cruiser быў заўважаны каля Нацыянальнага прэс-цэнтра падчас прэс-канферэнцыі намесніка прэм’ер-міністра Анатоля Калініна.

Купляюць чыноўнікі і «мерсэдэсы». У афіцыйным прадстаўніцтве аўтамабільнай кампаніі “Мерсэдэс бэнц” ў Мінску гэты факт пацвярджаюць, аднак падрабязнасці раскрываць не сталі.

А вось «фальксваген» беларускія чыноўнікі не любяць. Чамусьці набываюцца машыны гэтай маркі толькі самога нізкага ўзроўню. Міністраў у такіх не возяць.

Цікава, а на чым ездзяць суседзі?

**ЛІТВА:**

## КРЫЗІС ПРЭЗІДЭНЦКАГА ГАРАЖА

У гаражы прэзідэнцкага палаца Літвы — 15 легкавых аўто. З іх адзін возіць экс-прэзідэнта Валдаса Адамкуса. Цяперашні прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ нядаўна перасела ў лімузін Дэпартамента аховы кіраўніцтва.

Між тым прадстаўніцкія аўтамабілі прэзідэнцкі гараж не закупляе. Прэзідэнцкі палац абвясціў конкурс на арэнду аўтамабіляў з вадзіцелямі.

У аб’яве сказана, што патрэбны «лімузіны з трымальнікам для сцяжка з правага боку», а таксама «вялікія прэстыжныя легкавыя аўтамабілі». «Дамова аб арэндзе машын патрэбен для таго, каб у выпадку неабходнасці не давялося ў спешцы шукаць пастаўшчыка паслуг», — сказаў прадстаўнік прэзідэнцкага палаца.

Па словах чыноўнікаў, ні адзін з саветнікаў прэзідэнта не мае “свайго” службовага аўтамабіля”. Акрамя таго, прэзідэнцкі палац інфармаваў, што ў яго распараджэнні знаходзяцца толькі 6 кіроўцаў легкавых машын і 2 «кіроўцы-трактарысты».

*Заканчэнне на стар. 4*

# ЧЫНУШЫ ЯК “АЎТАКРЭЗЫ”

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

**РАСІЯ:**
## СТАЎКА НА СВАЁ

У 2011 годзе адміністрацыі розных расійскіх гарадоў і ўправы раёнаў аб’яўлялі конкурсы на набыццё аўтамабіляў Ford Mondeo, UAZ Patriot, Chevrolet Niva і нават Lada-2107.

У пачатку 2011 года большасць дзяржаўных ведамстваў Расіі адмовілася ад набыцця дарагіх аўтамабіляў на карысць іх арэнды. Калі ў 2010 годзе напракат бралі ўсяго 20—30% машын, то ў 2011 годзе гэты паказчык павялічыўся да 70%. Найбуйнейшым арандатарам стаў Пенсіённы фонд, які атрымаў у часовае карыстанне 47 аўтамабіляў.

Пры гэтым гучала прапанова перасадзіць расійскіх чыноўнікаў на асабістыя аўтамабілі. Утрыманне службовага аўтамабіля сярэдняга класа з улікам жыццёвага цыкла машыны, эксплуатацыйных выдаткаў, зарплаты кіроўцаў абыходзіцца міністэрствам і ведамствам у сярэднім у 100 тысяч рублёў у месяц. На думку ініцыятараў гэтага законапраекта, калі згаданую суму нават часткова выкарыстоўваць на персанальную прыбаўку да зарплаты або заахвочванне чыноўнікаў, то многія з цікавасцю ўспрымуць скарачэнне ведамаснага аўтапарка.

**УКРАІНА:**
## АБМЕЖАВАННЕ НА КУПЛЮ

Ва Украіне — адзін з самых вялікіх «чынавенскіх гаражоў». Колькасць службовых аўтамабіляў для чыноўнікаў складае тут каля 7 тысяч. Гэта ледзь ці не самы вялікі чынавенскі аўтапарк у Еўропе.

Чыноўніцкія целы там да гэтага часу возяць прадстаўнічыя аўтамабілі. Напрыклад, работнікаў апарату Вярхоўнай Рады — службовыя «опелі» і «шкоды», дэпутатаў — прадстаўнічыя «таёта-камры». На службе ў Вярхоўнай Радзе ёсць нямала «мерсэдэсаў», але там запэўніваюць, што набывалі іх вельмі даўно. Нават спікер Уладзімір Літвін, кажуць, ездзіць на «мерсэдэсе», які перайшоў да яго ад папярэднікаў. На машыну папярэднікаў перасеў і прэм’ер Мікалай Азараў.



*Апетыты асобных “вертыкальшчыкаў” толькі растуць*

Уся справа ў тым, што ўкраінскім дзяржустановам забаранілі набываць дарагія машыны: урад прадоўжыў да 2014 года дзеянне пастановы аб эканоміі бюджэтных сродкаў, якая, у прыватнасці, забараняе чыноўнікам купляць за кошт казны дарагія аўтамабілі. Нават чыноўнікаў Адміністрацыі прэзідэнта перасадзілі на бюджэтныя «шкоды актавія».

Абмежаванні на набыццё ўкраінскімі чыноўнікамі дарагіх аўтамабіляў былі ўведзены яшчэ ў 2001 годзе (іх увёў тагачасны першы віцэ-прэм’ер Юры Еханураў). Віктар Януковіч, у другі раз стаўшы прэм’ерам у 2006 годзе, гэтыя абмежаванні зняў. У лістападзе 2008-га, у пачатку фінансавага крызісу, урад Юліі Цімашэнка наогул забараніў дзяржслужачым купляць службовыя машыны. Зрэшты, міністрам не сталі забараняць выкарыстанне ўжо набытых іншамарак, таму сама Цімашэнка ездзіла на Mercedes-600.

**ПОЛЬШЧА:**
## ПРЫЯРЫТЭТ РОВАРАМ

У Польшчы чыноўнікаў перасаджваюць на ровары. Прычым ініцыятыва зыходзіць ад мясцовых улад. Напрыклад, у Гдыні мэрыя закупіла ровары для сваіх супрацоўнікаў. Ёсць і заахвочванне: прыедзеш на працу на ровары — атрымаеш у падарунак бутэрброд ці квіткі ў кіно.

За апошнія гады колькасць веласіпедыстаў у Польшчы павялічылася ў разы. Ездзіць на ровары стала модна.

**ЛАТВІЯ:**
## АЎТАМАБІЛЯМІ НЕ КАРЫСТАЮЦЦА

Бюро па барацьбе і прадухіленні карупцыі Латвіі адзначае, што службовую машыну наогул нельга выкарыстоўваць для асабістых патрэб. Гэта прадугледжваюць адпаведныя правілы. У іх, дарэчы, агаворана, якія службовыя асобы маюць права ездзіць на машыне дадому.

Але і гэтым чыноўнікам даводзіцца несалодка. Калі службовая асоба выкарыстоўвае службовую машыну для паездак з дома на працу і назад, то за гэта трэба плаціць падатак. Некаторыя міністры ўжо са студзеня гэтага года пачалі плаціць за карыстанне службовым аўто.

Вось і пыляцца ў гаражы Міністэрства культуры адразу два аўтамабілі 2009 года выпуску — Volvo S40 і Toyota Avensis, а ў Міністэрстве ўнутраных спраў — такі ж «нулявы» Volkswagen Passat. Аказалася, што самы вялікі аўтапарк у Міністэрства замежных спраў — звыш ста адзінак тэхнікі, пераважна 3-4-гадовай даўніны, хоць ёсць і зусім новыя экспанаты, напрыклад, Volvo S80 2008 года выпуску і Mercedes-Benz E200 таго ж года.

## А НА ЧЫМ ЕЗДЗІЛІ ПАПЯРЭДНІКІ?

Былы міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі ездзіў на «Волзе».

Былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч змяніў некалькі службовых машын. «Спачатку я ездзіў на «Волзе». Потым мне далі «членавоз» — «Зіл-117». Я на ім ездзіў толькі тры разы, прымаць у паслоў даверчыя граматы. Нават у Віскулі я ездзіў не на ім — мой “Зіл” тады завозіў у Віскулі Ельцына і Кучму. Потым Савет Міністраў закупіў патрыманыя «мерсэдэсы» (былі такія доўгія машыны), а пасля ўжо 15 новых «мерсэдэсаў», якімі я амаль не карыстаўся. Але 90% часу мяне вазіла «Волга», — запэўнівае Шушкевіч.

Больш пашанцавала былому старшыні Нацбанка Станіславу Багданкевічу. «Па Мінску я ездзіў на «Возге», але была ў мяне машына і прадстаўнічага класа — ці то «БМВ», ці то «Мерсэдэс». Да іх дадаваліся два кіроўцы. Гэта быў стандарт для кіраўніка Нацбанка яшчэ з савецкіх часоў», — сказаў Багданкевіч.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

**МЕРКАВАННЕ**

**Эканаміст Сяргей Чалы прапаноўвае прапісаць правілы таго, што можа дазволіць сабе чыноўнік:**

–Увогуле, скандалы ўзнікаюць таму, што ў нас няма правіл, у якіх прапісана, на якой машыне можа ездзіць чыноўнік. Усё залежыць ад ступені нахабства чыноўнікоў: яны толькі здагадваюцца аб планцы ў тратах на сябе дзяржаўных сродкаў.

Я думаю, варта прапісаць узровень трат дзяржаўных сродкаў на добрыя машыны і іншыя прадметы раскошы для чыноўнікаў рознага ўзроўню. Тады і скандалаў не будзе, і карупцыйных спраў стане менш.

Жахлівыя навіны аб тым, што хутка надыдзе крах той ці іншай сусветнай валюты, выводзяць з раўнавагі звычайных беларускіх спажыўцоў. Ці трэба рэагаваць на гэтыя навіны, разбіралася з дапамогай экспертаў "Тут і цяпер".

# ЯК "ПЛЕСЦІ" СВОЙ ВАЛЮТНЫ КОШЫК

## З ПАНТАЛЫКУ ЗБІВАЮЦЬ НАВАТ ЭКСПЕРТАЎ

Не праходзіць і тыдня, каб па ўсіх медыйных каналах не прагучала чарговае меркаванне эксперта, які прадвяшчае працяг, абвастрэнне альбо канец фінансавага крызісу ў Еўрасаюзе. Напрыклад, кіраўнік Еўрапейскага фонда фінансавай стабільнасці Клаўс Рэглінг у інтэрв'ю германскаму штодзённіку "Шпігель" надоечы заявіў, што крызіс Еўразоны можа быць урэгуляваны цягам двух гадоў. Праўда, ён падкрэсліў, што гэта магчыма, калі закранутыя ім дзяржавы выканаюць свае бюджэтныя абавязацельствы.

Бясконцыя тэрміны і ўмовы заканчэння крызісу збіваюць з панталыку не толькі звычайных спажыўцоў, але нават экспертаў. Разам з тым спецыялісты па асабістых фінансах раяць не звяртаць увагі на дэпрэсіўныя ці надта аптымістычныя навіны.

"Па-першае, наш спажывец не мае ніякага дачынення да еўрапейскага фінансавага крызісу. Гэты крызіс закранае толькі асобныя краіны, у якіх ёсць праблемы з дзяржаўнымі даўгавымі абавязацельствамі. Нашаму насельніцтву варта ўспрымаць гэты крызіс проста як інфармацыю пра тое, што адбываецца ў іншых краінах.



*Пакуль наша грашовая адзінка ў плане укладаў цікавейшая за долар*

І наўрад ці трэба нават спрабаваць рэагаваць", — кажа кіруючы партнёр Цэнтра фінансавых кансультацый кансультант па кіраванні прыватным капіталам і партфельнымі інвестыцыямі Любоў Закрэўская.

Закрэўская нагадвае, што шматлікія аналітыкі сёння кажуць пра тое, што ёсць шанс развалу Еўразоны. Давяраць гэтым выказванням ці не давяраць – гэта вельмі складанае пытанне, бо ніхто не ведае, на што зараз арыентавацца. Але, тым не менш, за гэтым трэба сачыць, калі значная частка грошай чалавека захоўваецца ў еўра.

> "Можна "гуляць" на некаторую частку грошай, на якую нашы грамадзяне здольныя рызыкнуць. Але выйграць у гэтай гульні вельмі складана, бо спрэд* розніцы паміж купляй і продажам заўсёды існуе".

Разам з тым наўрад ці ў непрафесіянала атрымаецца аператыўна зрэагаваць на нейкую падзею, таму варта зрабіць больш разнастайным свой валютны кошык, то бок зберажэнні ў розных валютах.

## ГРОШЫ – ГЭТА ТАК ІНДЫВІДУАЛЬНА

Пытанне захавання сваіх сродкаў у розных валютах вельмі індывідуальнае. Людзі часта збіраюць грошы не на завоблачныя далячыні, а дзеля канкрэтных фінансавых мэт: купля кватэры, машыны, падарожжа ў Еўропу, буйныя спажывецкія пакупкі. І вызначаць прапорцыі ў валютным кошыку варта сыходзячы з тых фінансавых мэт, на якія збіраюцца сродкі.

Калі вы збіраецеся ехаць у Еўропу альбо купляць нерухомасць у Балгарыі ці іншай еўрапейскай краіне, то частку зберажэнняў варта захоўваць у еўра. Але калі гэта купля машыны (што ў Беларусі найчасцей ажыццяўляецца ў доларах), то лепш захоўваць большую частку грошай у амерыканскай валюце.

Любоў Закрэўская ўказвае на тое, што расійскія рублі – гэта валюта, якая сёння схільная да ваганняў і дэвальвацыі. Таму, перад тым як пераводзіць свае зберажэнні ў расійскі рубель, варта добра падумаць.

Назіраючы за змяненнямі валют, якія то растуць, то падаюць у дачыненні да беларускага рубля, некаторыя беларусы намагаюцца атрымаць выгаду, прадаючы-купляючы долары ці еўра.

"Гульня ў абмен валюты – забава з абсалютна непрадказальным вынікам. Адгадаць, як будзе змяняцца курс, тым больш беларускага рубля, на дадзены момант немагчыма. Можна "гуляць" на некаторую частку грошай, на якую нашы грамадзяне здольныя рызыкнуць. Але выйграць у гэтай гульні вельмі складана, бо спрэд* розніцы паміж купляй і продажам заўсёды існуе. І нават калі курс мяняецца, значна выйграць на гэтым складана, можна толькі пры вельмі моцных ваганнях. Такіх ваганняў я не назіраю", — адзначыла Любоў Закрэўская.

## АДЗІН З САМЫХ ВЫГАДНЫХ — БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ

Больш за тое, як гэта ні дзіўна, на дадзены момант і ў бліжэйшы час адзін з самых выгадных інструментаў для зберажэнняў — беларускі рубель.

*"Зараз дэпазіты ў беларускіх рублях нашмат больш выгадныя, чым уклады ў замежнай валюце. І калі зыходзіць з інфармацыі, якая была агучана на нядаўняй нарадзе ў прэзідэнта, на наступны год закладваецца невысокі курс долара, гэта значыць, што сітуацыя моцна не зменіцца"*, — кажа старшыня праўлення Рэспубліканскага мікрафінансавага цэнтра Ігар Мікульчык.

На жаль, з-за слабога развіцця беларускага фінансавага рынку ў звычайных грамадзян няма вялікага выбару фінансавых інструментаў. І дэпазіты застаюцца найлепшым інструментам для зберажэнняў.

Варта дадаць, што, выбіраючы валюту для зберажэнняў, трэба памятаць, што ў сучасным свеце няма стабільнасці. Таму заўсёды неабходна быць гатовым да таго, што грошы могуць не толькі расці і павялічвацца, але і памяншацца, і нават знікаць. Так што сачыце за навінамі, але не звяртайце ўвагі на апакаліптычныя прагнозы. Яны рэдка здзяйсняюцца.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

**ДА ВЕДАМА**

**Спрэд* (фінансы, ад англ. Spread - распаўсюджванне, павелічэнне) - рознасць паміж найлепшымі цэнамі куплі (бід) і продажу (АСК) у адзін і той жа момант часу.**

# ШТО МОЖА ПАКІНУЦЬ ПАСЛЯ

**Днямі прайшла навіна аб тым, што міністр культуры Павел Латушка вось-вось атрымае новую пасаду і пяройдзе на дыпламатычную працу. Зразумела, адразу пайшлі размовы пра "ролю гэтай асобы ў гісторыі".**

Меркаванні падзяліліся. Адны лічаць Паўла Латушку найлепшым міністрам культуры ў гісторыі Беларусі, а другія настойваюць на тым, што ад іншых міністраў Латушка адзрозніваецца толькі тым, што гаворыць па-беларуску. І ўзгадваюць, што "чорныя спісы" забароненых творцаў як існавалі, так і існуюць. А Латушка робіць выгляд, што быццам бы нічога пра іх не ведае…

"Тут і цяпер" пацікавілася ў некаторых дзеячаў культуры аб тым, як яны ацэньваюць ролю міністра Латушкі ў культурным жыцці краіны.

## ПАЧАЛІ ЗА ЗДАРОЎЕ, А СКОНЧЫЛІ ЗА СПАЧЫН?

**Драматург Андрэй Курэйчык** у свой час гучна выйшаў з Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў, які быў створаны па ініцыятыве Паўла Латушкі. Падставай для скандалу паслужыла распаўсюджаная беларускімі блогерамі інфармацыя пра тое, што ў рэдакцыі афіцыйных СМІ прыйшла папера са спісам забароненых да згадвання "дзеячаў мастацтва і творчых калектываў".

– Мне здаецца, Павел Паўлавіч проста няўдачлівы чалавек, – выказвае сваё меркаванне вядомы сцэнарыст і драматург. – Я падтрымліваю большасць з яго пачынанняў, але на этапе рэалізацыі яны чамусьці ператвараюцца ў супрацьлегласці. Выдатная была ідэя стварыць Савет па культуры і ўключыць туды як афіцыёзных, так і незалежных, нават апазіцыйных дзеячаў культуры; арганізаваць дыялог. Так усё прыгожа пачыналася, і дзе цяпер гэты савет? Чым ён займаецца?

Другое выдатнае пачынанне – рэстаўрацыя нашых помнікаў архітэктуры. І на што зараз падобны Нясвіжскі замак са шклопакетамі і "турэцкім еўрарамонтам"?

А тое, што зрабілі з Купалаўскім тэатрам – злачынства супраць гісторыі! Яго як аб'ект архітэктуры проста знішчылі.

Выдатнае пачынанне – сумленна і па конкурсе размяркоўваць дзяржаўныя грошы на кіно, стварыць клас беларускіх кінапрадзюсараў, рабіць сучаснае кіно пра сучасную Беларусь на беларускай мове. Ізноў усё наадварот! Усе грошы аддаюць "Беларусьфільму" і іх партнёрам з Расіі – фактычна на расійскае кіно. Прычым члены журы адкрыта кажуць, што вынік падтасаваны. І гэтак далей...

Вялікая колькасць цудоўных пачынанняў паварочваецца прафанацыяй. Чаму? Маё меркаванне: Паўлу Паўлавічу проста не шанцуе...




*Нацкультура ўспрымаецца больш як нешта дэкаратыўнае*

**ДА ВЕДАМА**

**Павел Паўлавіч Латушка (нарадзіўся 10 лютага 1973 г. у Мінску) - беларускі дзяржаўны дзеяч, дыпламат.**

**У 1995 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. У 1996 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт.**

**У 1995-1996 гг. быў аташэ дагаворна-прававога ўпраўлення Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. У 1996-2000 гг. займаў пасады віцэ-консула, консула генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку (Польшча).**

**У 2000-2002 гг. - Начальнік упраўлення інфармацыі - прэс-сакратар МЗС Беларусі. У 2002-2008 гг. - Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы.**

**З чэрвеня 2009 года - Міністр культуры Рэспублікі Беларусь.**

## АТАШЭ ПА КУЛЬТУРЫ І МІНІСТР – РОЗНЫЯ ПАНЯЦЦІ

**Паэт і палітык Уладзімір Някляеў** лічыць, што Латушка проста выконвае ролю аташэ па культуры ў дзяржаўнай установе Аляксандра Лукашэнкі.

– Нешта ён, канечне, робіць, у тым ліку па-беларуску гаворыць. На сённяшні дзень гэта, як ні дзіўна, таксама праца, – усміхаецца Уладзімір Пракопавіч. – Але асноўная праца міністра культуры – змяніць канцэпцыю, дзяржаўны падыход да нацыянальнай культуры, яе развіцця, перспектыў. На мой погляд, гэты падыход за той час, што Латушка знаходзіцца на пасадзе міністра, не змяніўся. А эпізадычныя праяўленні беларускасці на нейкіх выставах, імпрэзах, канцэртах былі і да Латушкі, і застануцца пасля яго. Трасенне льнянымі спадніцамі з вышыванкай, "Лявоніха", воклічы на "Славянскім базары" – гэта ўсё было і будзе, але гэта не галоўнае. Насамрэч беларуская культура больш глыбокая…

Мне падаецца, што Латушка нават і не міністр, ён проста выконвае ролю аташэ па культуры ў дзяржаўнай установе Аляксандра Лукашэнкі.

Дарэчы, Някляеў ніколі не сустракаўся з Латушкам-міністрам. "Не меў гонару быць запрошаным на такую сустрэчу", – кажа ён.

## ІДЗІ ТЫ НА… ШЭКСПІРА!

**Вядомы беларускі пісьменнік і мастак Адам Глобус** асабіста сустракаўся з міністрам Паўлам Латушкам.

– Была вельмі прыемная гутарка, – дзеліцца ўражаннямі творца. – І мне падаецца, што з усіх міністраў, якія ў нас былі,

# СЯБЕ ЛАТУШКА

гэты найлепшы. Так склалася, што нашы міністры мала ўплываюць на сітуацыю. І пытанне, якое мы задалі міністру падчас сустрэчы, засталося нявырашаным. Мы з кампазітарам Воранавым (ён скончыў нашу кансерваторыю, жыве цяпер у Кёльне) хацелі напісаць оперу для Опернага тэатра. І нам паабяцалі, што будуць садзейнічаць. Аднак пакуль што вырашылі ставіць Смольскага…

**– Але пры гэтым, напрыклад, у тым жа Музычным тэатры, кажуць, што няма аўтараў, якія могуць прапанаваць годныя творы, напісаць лібрэта. У некаторых іншых тэатрах таксама наракаюць на адсутнасць аўтараў і добрых п'ес…**

– Калі мне артыст гаворыць, што няма п'ес, я кажу: "Ідзі ты на Шэкспіра!", – адказвае Глобус. – П'есы заўсёды ёсць, а калі людзі не ходзяць у тэатр, то гэта залежыць ад тэатра. А ў нас адбываецца так: зрабілі рамонт – схадзілі ў тэатр, паглядзелі на рамонт. Такі час, калі ў тэатр усе ходзяць паглядзець менавіта на рамонт.

І рамонты, трэба сказаць, ідуць. І ў музеях у нас галоўнае банкеткі… Час мэблі. Ёсць час карцін, творчасці, а ёсць час, калі ўся культура звялася да банкетак, банкетаў і мэблі.

> "Сёння мы маем справу не з міністрам культуры, а з Сістэмай. І роля асобы, нейкія асабістыя якасці Латушкі – гэта ўсяго толькі 0,01 працэнта. Ён працуе ў жорсткіх рамках выбудаванай Сістэмы, таму немагчыма казаць пра тое, добры ён міністр ці не".

Але ў мяне вялікіх прэтэнзій да Латушкі няма. Наадварот, я кажу, што гэта міністр, які прымаў, выслухоўваў, а гэта таксама важна – каб цябе хоць паслухалі. Таму адмоўных эмоцый ён у мяне ніколі не выклікаў. Я Латушку ведаў яшчэ да таго, як ён стаў міністрам…

– Апошнім часам у кулуарах ідзе пагалоска, што Латушка, які яшчэ літаральна тыдзень таму знаходзіўся ў адпачынку, вось-вось атрымае новую пасаду і накіруецца на дыпламатычную працу ў Францыю.

– Ведаеце, усе міністры сыходзяць, – тлумачыць ён простыя ісціны. – Гэта таксама добра. Я люблю, калі адбываецца ратацыя чыноўнікаў: папрацаваў – дай другому папрацаваць, пакрасаваўся – дай другому пакрасавацца. Гэта нармальна…

## НАЗВАЎСЯ ГРУЗДОМ...

**Кінарэжысёр і кандыдат у дэпутаты Юры Хашчавацкі** лічыць, што немагчыма ацаніць эфектыўнасць работы Паўла Латушкі.

– Вось кіньце, напрыклад, выдатнага плыўца Фелпса ў басейн з акуламі, – папулярна тлумачыць Юрый Іосіфавіч. – І паглядзіце, ці праплыве ён 50 ці 100 метраў? Так і ў нас: сёння мы маем справу не з міністрам культуры, а з Сістэмай. І роля асобы, нейкія асабістыя якасці Латушкі – гэта ўсяго толькі 0,01 працэнта. Ён працуе ў жорсткіх рамках выбудаванай Сістэмы, таму немагчыма казаць пра тое, добры ён міністр ці не. Калі ён не захоча падпарадкоўвацца загадам і патрабаванням, то яго проста не будзе на гэтай або любой іншай высокай пасадзе...

**МАРЫНА МІТ**



*Якія кніжкі рэкламуюцца дзяржавай, такія і вынікі*

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ БУДУЦЬ З'ЯЗДЖАЦЬ НЕ Ў ШТАТЫ

Вось што сказаў карэспандэнтам "Тут і цяпер" пра магчымыя наступствы кіравання новага (старога) амерыканскага прэзідэнта для беларускай эканомікі дырэктар па даследаваннях ГА «Дыскусійна-аналітычная супольнасць "Ліберальны клуб» Яўген Прэйгерман.

**— Які з двух кандыдатаў у прэзідэнты ЗША выглядае найбольш зручным для беларускай эканомікі?**

— Я думаю, што вялікай розніцы няма. Міт Ромні, канечне, будзе больш крытычны ў выказваннях. Барак Абама за ўвесь час свайго прэзідэнцтва не так часта і ўзгадваў пра Беларусь. У час Джорджа Буша малодшага было больш крытычных заўваг наконт Беларусі. Але паўтаруся, што ёсць закон, які рэгулюе нашы эканамічныя адносіны, і я не думаю, што ён будзе перагледжаны якой-небудзь з адміністрацый.

**— У выпадку ўзмацнення націску на бізнес у Беларусі ці змогуць ЗША пры Міце Ромні даць магчымасць весці бізнес у Амерыцы? Ці паедуць туды беларускія прадпрымальнікі?**

— Цяжка сказаць. Для многіх людзей, якія вывозяць свой бізнес з Беларусі (хаця я думаю, што большасць з іх ужо з'ехалі), найбольш зручна ехаць у краіны-суседзі. У мінулым годзе губернатар Смаленскай вобласці публічна дзякаваў беларускаму народу за тое, што больш за палову бюджэту вобласці ўтваралася за кошт беларускіх прадпрымальнікаў. Таму прадпрымальнікі будуць з'язджаць у Расію ці Украіну, магчыма, у Польшчу (крыху ў меншай ступені). У ЗША едуць адзінкі, бо трэба валодаць мовай, працаваць у новых умовах. Таму гэтае пытанне не вартае сур'ёзнага разгляду.

Эканамічныя стасункі Беларусі і ЗША цягам апошніх 10 гадоў моцна цярпяць ад палітычнага канфлікту паміж дзвюма краінамі. Злучаныя Штаты ўвялі санкцыі ў дачыненні да нафтахімічных прадпрыемстваў Беларусі — ААТ «Лакафарба», ААТ «Полацк-Шкловалакно», ААТ «Нафтан», ААТ «Гродна-Азот», ААТ «Белшына», ААТ «Гродна Хімвалакно». Амерыканскім эканамічным суб'ектам забаронена мець кантакты з гэтымі прадпрыемствамі, а таксама з некаторымі невялікімі беларускімі банкамі, якія падазраюцца ў адмыванні грошай.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

*Працяг тэмы на стар. 8*

# ПАЛІТЫКА ЗША Ў АДНОСІНАХ ДА БЕЛАРУСІ НЕ СТАНЕ МЯГЧЭЙ

*Пачатак тэмы на стар. 7*

Упершыню за цяперашнюю прэзідэнцкую гонку ў Злучаных Штатах Амерыкі рэйтынгі прэзідэнта Барака Абамы і яго асноўнага суперніка Міта Ромні зраўняліся (па 45% кожны).

**Наколькі могуць змяніцца беларуска-амерыканскія палітычныя стасункі ў выпадку, калі новым гаспадаром Белага дома стане Ромні? На гэтыя дый іншыя пытанні адказвае вядомы палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі.**

.—Адразу скажу, хутчэй за ўсё, нічога кардынальнага ў адносінах да нашай краіны, хто б сёлета ні стаў прэзідэнтам ЗША, не адбудзецца. Мушу нагадаць, што нашы адносіны з гэтай краінай можна лічыць амаль замарожанымі. Яны прадстаўленыя, на вялікі жаль, часовымі паверанымі. Што ні ў якім выпадку нельга лічыць здавальняючым. Злучаныя Штаты з самага пачатку набыцця Беларуссю незалежнасці заўсёды займалі ў дносінах да яе вельмі прынцыповую пазіцыю – захаванне нашай незалежнасці, захаванне правоў чалавека, павага да грамадзянскай супольнасці і г.д.

Было б вельмі наіўным лічыць, што, напрыклад, Міт Ромні нейкім чынам будзе адыходзіць ад гэтай пазіцыі.

**– Магчыма, адбудзецца наадварот? Ці можна выключаць больш жорсткае стаўленне да Беларусі? Ромні ўжо неяк зрабіў вельмі недвухсэнсоўныя заявы ў бок Расіі. А на дадзены момант Беларусь з'яўляецца найбліжэйшым яе хаўруснікам…**

– Шчыра кажучы, для Злучаных Штатаў Расія ўжо дастаткова даўно не ўяўляе сур'ёзнай сілы, з якой трэба лічыцца па ўсіх важных пытаннях. Еўрасаюз, Кітай, Індыя – вось краіны павышанай цікавасці амерыканцаў. Толькі ў Кітай штогод з ЗША, па некаторых дадзеных, ідзе пад 40 мільярдаў долараў інвестыцый.

Што ўжо гаварыць пра месца нашай краіны ў амерыканскай знешняй палітыцы….

Разам з тым, я б сапраўды не выключаў магчымасці больш жорсткага стаўлення новай амерыканскай адміністрацыі да беларускіх улад. Дазвольце нагадаць, упершыню за ўсю найноўшую гісторыю ЗША быў прыняты спецыяльны закон па Беларусі – "Акт аб падтрымцы дэмакратыі". Адмяніць гэты закон вельмі складана. Можна толькі прыпыніць. Але такіх намераў амерыканская адміністрацыя і блізка не выяўляе. Ёсць у гэтым законе важны пункт. Амерыканскі Кангрэс прадастаўляе права выканаўчай уладзе замарожваць рахункі беларускіх замежных установ у ЗША дый іншых краінах. У свой час такім чынам былі замарожаны рахункі вядомага "Інфабанку", які потым пераўтварыўся ў "Трастбанк". Амерыканцы вельмі пільна і неабыякава сочаць за сітуацыяй з правамі чалавека ў нашай краіне, якая апошнім часам мянялася толькі ў горшы бок. Я перакананы, пры новым (альбо старым) амерыканскім прэзідэнце гэтая ўвага, як мінімум, не паменшыцца.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**



*Абаме прыйшоў час прыхаваць сваю знакамітую ўсмешку*

**ДА ВЕДАМА**

**Прэзідэнцкія выбары ў ЗША пройдуць 6 лістапада.**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 06.09.12
Тыраж 299 экзэмпляраў